I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Люты-2 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## «Першае слова — ПОСПЕХ»:




## гомельскі бізнэсмен лічыць, што перавод бізнэсу на беларускую мову дапамагае ў крызіс

стар. 2

Два салдаты з Веткі збеглі з часці, не вытрымаўшы бясконцага вымагання грошай праз збіццё. Жыхар Брэста схаваў іх і перадаў бацькам.

стар. 4

**Футбол па-беларуску!**

стар. 7

**Памежнікі затрымалі беларуса, які ішоў па пенсію проста па лёдзе Дняпра**

стар. 6

# «Першае слова — ПОСПЕХ»:
## гомельскі бізнэсмен лічыць, што пераклад бізнэсу на беларускую мову дапамагае ў крызіс

***Беларуская мова патроху перастае быць доляй толькі культурнай інтэлігенцыі, апазіцыі і пажылых жыхароў вёскі, паступова пашыраючы сваю прысутнасць ва ўсіх сферах жыцця.***

Бізнэс — не выключэнне. Рэкламныя білборды, што на мове прасоўваюць прадукцыю буйных сусветных брэндаў, ужо даўно сталі звыклымі. Хто цікавіўся, даўно ў курсе: палітыка большасці глабальных кампаній прадугледжвае вядзенне рэкламнай дзейнасці выключна на тытульнай мове нацыі, якая насяляе краіну.

Паралельна, многія маркетынгавыя даследаванні пацвярджалі: беларуская мова ў рэкламе робіць яе больш прывабнай для мясцовых жыхароў, а часцяком нават больш сэксуальнай. Тым не менш на паводзінах мясцовых прадпрымальнікаў усе гэтыя фактары доўгі час не адбіваліся — пераважная іх большасць працягвала выкарыстоўваць выключна рускую мову. Шмат шуму нарабіла леташняя ініцыятыва сеткі аўтазаправак А-100, якая прыняла рашэнне аб вяртанні да нацыянальных вытокаў у моўным пытанні.

У Гомелі таксама ўсё больш і больш шыльдаў розных кампаній і фірмаў афармляецца на роднай мове. А дырэктар кампаніі «Будмаркет ТэрмаДэкор» Вадзім Мартыненка, здаецца, пайшоў далей за ўсіх. На сваёй старонцы ў сацсетцы «Facebook» ён зрабіў запіс аб тым, што цалкам перавядзе свой бізнэс на беларускую мову: ад шыльдаў і цэннікаў, да зносін з кліентамі і рэкламы.




«Моцныя навіны» пагутарылі з прадпрымальнікам, каб зразумець: што падштурхоўвае паспяховых людзей вяртацца да гістарычных і культурных вытокаў і наколькі тут моцны прагматычны разлік.

— Вадзім, для пачатку раскажыце пра прычыны свайго рашэння: было яно спантанным альбо Вы, як той казаў, «дайшлі»?

— Яно не было спантанным, я ішоў да гэтага шмат гадоў, пачынаючы з 2000-х гадоў, калі мне было яшчэ трыццаць. Тады, у першую чаргу, мною рухала жаданне самаідэнтыфікацыі: хто я? Беларус? Рускі? Хто? Пачуццё крыўды і прыкрасці з-за пастаяннай дэградацыі беларускай мовы і культуры толькі кіравалі мною, жаданне ўсё ж такі быць беларусам толькі мацнела.

— І як Вы пачыналі? Праблем хапіла?

— Нялёгка пачынаў. Збіраўся з думкамі доўга. Доўга хацелася, але прыкладна чатыры гады таму пачаў патроху выціскаць з сябе «дзякуй» у зносінах з прадаўцамі ў крамах. Як гаворыцца, «па прыколе», граючы, вёў дыялогі з сябрамі і блізкімі. На зняцце страху, нейкага комплексу сышло ажно два (!) гады! Былі беларускія аўдыёкнігі Гарэцкага, Караткевіча, быў канал «Культура», «Наша Ніва», іншыя моўныя рэсурсы, шмат чаго было. У рэшце рэшт, я зараз магу бегла тлумачыцца ў любой сітуацыі.

— І вырашылі распаўсюдзіць сваё захапленне на бізнэс?

— Пытанне пераходу на мову ў бізнэсе — гэта пытанне эвалюцыі і своеасаблівага куражу. Як бізнэсовец, я думаю, вядома, аб матэрыяльных наступствах гэтага кроку, аднак

нейкі статыстыкі альбо аналітыкі па гэтай тэме знайсці не ўдалося. Рашэнне даспела з усведамленнем фактару рызыкі, пачуццем, што ты належыш да першапраходцаў…

— Ці не занадта легкадумна для бізнэсмена прымаць такія адказныя рашэнні, матывуючы рамантычным настроем?

— Пасля таго, як мой пост у Facebook на гэтую тэму набраў некалькі сотняў «лайкаў», на мяне абрынулася лавіна прапаноў аб дапамозе, паведамленняў з матывацыяй, адабрэння, я зразумеў, што гэта — правільнае рашэнне, і яно і было, па сутнасці, Рубіконам.

Сёння для мяне гэта проста свята для душы! Упэўнены, любы пазітыў прыносіць для бізнэсу добры вынік. У сённяшняй сітуацыі жорсткага эканамічнага крызісу гэта моцна дапамагае: і канкрэтная дапамога ад незнаёмых або маланзнаёмых табе раней людзей, і нават проста — адабрэнне і заахвочванне. Я бачу, што адсоткаў семдзесят нашых людзей, свядома ці не, замілоўвае сутыкненне з «роднай мовай», акунанне ў яе. Прыкладна 20% — абыякавыя. Ну а да астатніх дзесяці ўжо абыякавы я, хай ідуць сабе з мірам.

Мой шлях да нацыянальнай мовы быў паслядоўным і павольным. Гэта не мімалётнае рашэнне, гэта вынік эвалюцыі асобы. Мова — гэта вялікі штуршок сёння ў бізнэсе, за кошт мноства фактараў. Але яму папярэднічалі 15 гадоў роздумаў, сумненняў, перажыванняў і невялікіх крокаў. Таму я веру, што ўсё тут выверана, абдумана і ўсвядомлена, і поспех гарантаваны! Па-іншаму і быць не можа.

«Будмаркет ТэрмаДэкор» знаходзіцца па адрасе: горад Гомель, пр. Рэчыцкі, 7а (з левага боку ад гандлёвага цэнтра «Мандарын Plaza», паварот на святлафоры па галоўнай).

*NN.BY*

# Вымова за няўвагу да беларускамоўных зваротаў

***Кіраўніцтва Гомельскага аблвыканкама зрабіла вымову Лоеўскаму і Кармянскаму райвыканкамам за тое, што тыя падаюць няпраўдзівую інфармацыю каардынатару грамадскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігару Случаку.***

З 2012 года ён вядзе статыстыку колькасці беларускамоўных зваротаў грамадзян у дзяржаўныя ўстановы.

– Прыйшоў адказ, што сапраўды, мне давалі несапраўдную інфармацыю пра тое, што беларускамоўных зваротаў не было. І ў адказе паведамляецца, што да адказных за гэта супрацоўнікаў прынятыя меры ў адпаведнасці з заканадаўствам і зроблены заўвагі, каб такіх выпадкаў падання інфармацыі, якая не адпавядае рэчаіснасці, больш не было.




З Лоеўскага і Кармянскага райвыканкамаў прыходзілі адказы на запым Ігара Случака з паведамленнем, што ніякіх беларускамоўных зваротаў у іх у мінулым годзе не было, хоць сам каардынатар “Справаводства па-беларуску” неаднойчы да іх звяртаўся па-беларуску.

*Васіль Кроква*

— Вітаем у нашым Таварыстве зануд! Вось ваша крэсла.

— Насамрэч, у гэтага, як Вы выразіліся, крэсла, няма спінкі, так што тэхнічна гэта табурэт.

— Здаецца, у нас новы старшыня!

# Два салдаты з Веткі збеглі з часці, не вытрымаўшы бясконцага вымагання грошай праз збіццё. Жыхар Брэста схаваў іх і перадаў бацькам.

***У Брэсце з вайсковай часці № 92616 збеглі двое салдат. Здарэнне адбылося 3 лютага.***

Пайсці на крайнія меры двух Іванаў — землякоў з Веткі — вымусіла вымагальніцтва з боку старaслужачых. Афіцэры нібыта «не чулі».

Высокія вайсковыя чыны заяўляюць, што кожны факт дзедаўшчыны — гэта надзвычайнае здарэнне для беларускай арміі. Але, падобна, існуюць вайсковыя часткі, дзе пры папушчальніцтве камандзіраў нястатутныя адносіны з'яўляюцца нормай.

Што адбываецца ў вайсковай часці № 92616? Якія выхаваўчыя меры прымяняюцца да салдат, ад якіх потым у хлопцаў сінія рукі і ногі? У гэтым 8 лютага на месцы падзей паспрабавалі разабрацца сваякі нядаўніх прызыўнікоў.

У Брэст з Веткі адправіліся маці, цётка і айчым аднаго Івана, а таксама сястра другога Івана.

*Усё было добра, камандзір хваліў*

Два Іваны з Веткі марылі пайсці служыць менавіта ў ПДВ.

«Ванька раз дзесяць у ваенкамат тэлефанаваў, усё пытаўся — ці сапраўды возьмуць яго ў ПДВ, ужо надакучыў ім, кажуць — не тэлефануй, забяруць цябе! Ён проста рваўся туды, у дэсантнікі, дачакацца не мог прызыву», — распавядае маці ваеннаслужачага Ларыса.

18-гадовага Івана і яго цёзку прызвалі на тэрміновую вайсковую службу 16 лістапада 2015 года. Хлопцы трапілі ў 38-ю асобную Гвардзейскую мабільную Венскую Чырванасцяжную брыгаду (воінская часць №92616, Брэст).

12 снежня Іваны прынялі прысягу. Бацькі і сваякі прыязджалі да іх у Брэст, хлопцы былі задаволеныя, ні на што не скардзіліся.

«Яны задаволеныя былі, што патрапілі ў ПДВ! І камандзір іх хваліў. Хлопцы казалі — кормяць добра, усё нармальна, толькі берцы прасілі прывезці», — адна другую перабіваючы, успамінаюць маці Івана і сястра яго цёзкі Алена.

У войску, здавалася б, усё проста. На КПП вайсковай часці ў Брэсце два стэнды з фотаздымкамі дэсантнікаў. Тыя, хто не мае «залётаў» і маюць поспехі «у баявой падрыхтоўцы» — трапілі на стэнд «Яны выдатна нясуць службу». Фатаграфіі тых, хто праштрафіўся, змешчаныя на стэндзе «Яны ганьбяць землякоў». Здавалася б — выконвай нарматывы, статут, скачы з парашутам, бегай з аўтаматам, змагайся, трэніруйся, выхоўвай цела і дух.

Толькі не ўсё проста і адназначна склалася ў прызыўнікоў з Веткі, калі ўжо яны адважыліся на ўцёкі.

*«Іх білі жалезнай вешалкай па нагах і руках»*

«Паверце — нашы дзеці не выраслі ў аранжарэйных умовах!



У нас небагатыя сем'і, усім трэба было працаваць. Гэта дужыя хлопцы ва ўсіх сэнсах. Яны ніколі не баяліся цяжкасцяў, фізічна падрыхтаваныя, заўсёды маглі пастаяць за сябе, і тое, што адбылося з імі ў арміі — шок для нас», — распавядаюць сваякі.

І вось 3 лютага Ларысе, маці Івана, патэлефанавалі з вайсковай часці і паведамілі, што яе сын разам з земляком-цёзкай збеглі.

«Прадстаўнік вайсковай часці ўжыў ненарматыўную лексіку і пагражаў, што калі сам першы іх знойдзе, то па дзесяць разоў мінімум ударыць па галаве. Да гэтага, пасля прысягі, нам не раз тэлефанавалі дзеці, прасілі выслаць грошы, завялікія для нас, для Веткі сумы — ад 300 да 700 тысяч за раз. Яны тлумачылі, што грошы ім трэба камусьці заплаціць за розныя нібыта «касякі». Потым аказалася — грошы ў іх проста вымагалі, білі іх. Мы даведаліся, што грошы ў хлопцаў вымагаюць стараслужачыя — «дзяды», — дзеляцца сваякі.

Аказалася, што хлопцы збеглі, хутчэй за ўсё, ад роспачы і пасля таго, як іх шматкроць збівалі.

«Іх білі жалезнай вешалкай па нагах і руках, у Вані ўсе ногі сінія і рукі разбітыя. Ваню наносілі, па розных звестках, па сорак удараў жалезнай вешалкай. Адзін чалавек мне перадаў, што наогул майму брату далі па сто удараў вешалкай. Білі таксама па галаве, з локця, каб слядоў не было, у сківіцу. У аўторак ці сераду брат даслаў СМС — тэрмінова патрэбныя 500 тысяч, або яму «хана». У мяне не было грошай, я так і напісала. Ён адказаў, што «дзяды» сказалі: вам тэрмін да чацвярга, або самі лезьце ў пятлю, або мы вас павесім», — сястра Алена не можа стрымаць слёз.

Пасля самавольнага адлучэння з часткі салдат сталі шукаць. Прыехалі вайскоўцы адразу і да сваякоў у Ветку, чакалі, што хлопцы з'явяцца дома. Але тут бацькам Івана патэлефанаваў незнаёмы чалавек, жыхар Брэста.

«Мужчына сказаў, што знайшоў нашых хлопцаў у пад'ездзе дома, што яны збітыя і напалоханыя. Той чалавек сказаў: калі жадаеце бачыць дзяцей жывымі і здаровымі — тэрмінова самі прыязджайце за імі ў Брэст, я іх камандзірам не аддам без вашай прысутнасці», — успамінае Ларыса.

Яна з сястрой другога Івана выехалі ў Брэст. Там ужо ад хлопцаў і даведаліся падрабязнасці іх службы ў Гвардзейскай мабільнай Чырванасцяжнай брыгадзе.

«Дзяды» білі, а куды глядзелі афіцэры, камандзіры? Уключалі музыку і фільмы на ноўтбуку, каб не чуваць было крыкі? Няўжо такое здарылася толькі з нашымі хлопцамі? Іншых усё задавальняе? Іх выводзілі ноччу, па адным, і доўга і жорстка збівалі — ніхто не бачыў і не чуў? Хто ўсё гэта пакрывае? Хто будзе адказваць, акрамя «дзядоў»?» — цяпер у сваякоў больш пытанняў, чым адказаў.

Калі пасля ўцёкаў сваякі прыехалі ў часць і даведаліся пра здзекі, камандзіры абяцалі разабрацца, пакараць вінаватых, абяцалі патэлефанаваць бацькам і далі нумары сваіх тэлефонаў.

«Але мы ні да кога не датэлефанаваліся, і нам ніхто не патэлефанаваў. Таму зноў вырашылі ехаць у Брэст», — адзначыла Алена.

8 лютага сваякі наведалі камандаванне вайсковай часці, камендатуру, абласную пракуратуру, аддзел пракуратуры па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў войсках.

У аддзеле пракуратуры Брэсцкай вобласці па наглядзе за выкананнем заканадаўства ў войску дэлегацыю з Веткі прыняў выканаўца абавязкаў начальніка аддзела Дзмітрый Пузанкевіч.

Ён паведаміў, што па гэтым факце вядзецца праверка, па выніках якой будзе прынятае рашэнне, каб распачаць крымінальную справу або адмовіць у гэтым. Праверка была прызначаная камандаваннем брыгады і даручана дазнаўцу

**НІХТО НІКОМУ НІЧОГА НЕ ВІНЕН**




**Словы “Ты павінен...” часта ўжываюць, каб прымусіць цябе рабіць тое, чаго не ты хочаш. Павінен цярпець выбрыкі сваякоў, бо яны сваякі. Павінен падпісвацца на газеты. Павінен хадзіць на суботнікі. Насамрэч усё, што ты ПАВІНЕН, дакладна прапісана ў законах. Усё астатняе - ад лукавага.**

# Два салдаты з Веткі збеглі з часці, не вытрымаўшы бясконцага вымагання грошай праз збіццё. Жыхар Брэста схаваў іх і перадаў бацькам. Працяг

аддзела пракуратуры.

Па факце самавольнай адлучкі вайскоўцаў таксама будзе прымацца працэсуальнае рашэнне. Разгляд праводзіць вайсковая камендатура, там 8 лютага былі апытаныя сваякі вайскоўцаў.

Таксама сваякоў прыняў камандзір 38-й асобнай Гвардзейскай мабільнай брыгады Зміцер Собаль. Ён запэўніў сваякоў, што будзе праведзена аб'ектыўнае разьбіральніцтва гэтых фактаў.

У ваеннай камендатуры пры апытанні сваякам сказалі, што «дзяды» ўжо нібыта прызналіся і, хутчэй за ўсё, будуць пакараныя.

«Мы сустрэліся з хлопцамі, але гэтая сустрэча пакінула цяжкае ўражанне. Так, яны не паказвалі віду пры нас, усміхаліся, але якія ў іх былі вочы пры гэтым… Яны распавялі, што 8 лютага было шыхтаванне, і з гэтых «дзядоў» перад строем знялі цяльняшкі за такую, маўляў, правіну. Але ці пакінуць нашых дзяцей у спакоі? Ці будуць пакараныя ўсе вінаватыя, каб іншым непанадна было? Мяне насцярожыла, што Ваня прыходзіў на сустрэчу з намі ў суправаджэнні сяржанта, і той сяржант ні на секунду не адыходзіў ад яго — мы не маглі пагаварыць. Ваня толькі сказаў, што не хацеў бы заставацца тут», — кажа Алена.

Яна баіцца, што яму нехта пагражае.

*«З бязлітаснай цвёрдасцю»?*

Міністэрства абароны неаднаразова заяўляла, што «ў беларускім войску барацьба з нестатутнымі ўзаемаадносінамі вядзецца з бязлітаснай цвёрдасцю».

«Для параўнання: калі ў 2013 годзе 26 вайскоўцаў сталі ўдзельнікамі такога роду злачынстваў, то ў 2003-м іх было 134 — скарачэнне ў 5 з лішнім разоў. І гэта нягледзячы на тое, што колькасць ваеннаслужачых тэрміновай службы за гэты час амаль не змянілася», — заяўляла Міністэрства абароны ў 2014 годзе.

У ліпені 2015 года да пяці гадоў шасці месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму быў прыгавораны малодшы сяржант вайсковай часці № 92616, які нанёс цяжкія цялесныя пашкоджанні салдату тэрміновай службы. Сяржанту не спадабалася, што салдат не дастаткова хутка прыбіраўся ў казарме.

У 2015 годзе была распачата крымінальная справа па артыкуле 443 КК па фактах нестатутных адносін у Заслонаўскім гарнізоне пад Лепелем.

На пачатку 2016 года стала вядома, што за незаконны загад і збіццё салдата сяржант прысуджаны да двух гадоў абмежавання волі. Інцыдэнт з начным уздымам байцоў адбыўся ў адной з вайсковых часцей Гомельскай вобласці. Салдат тэрміновай службы паднялі ноччу з-за невыканання навабранцам негалосных нестатутных правілаў.

Камандзір аддзялення ў званні сяржанта загадаў маладым салдатам стаяць каля сваіх ложкаў да раніцы. Устаноўлена, калі адзін з байцоў адмовіўся выконваць незаконны загад, сяржант ужыў сілу. Яму прысудзілі абмежаванне волі тэрмінам на 2 гады. Акрамя таго, яго на 2 гады пазбавілі права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў і выкананнем функцый прадстаўнікоў улады. Прысуд уступіў у законную сілу

«Ва Узброеных сілах забяспечаны бескампрамісны падыход да правапарушальнікаў і няўхільнае пакаранне тых, хто вінаваты ў злачынствах, у адпаведнасці з заканадаўствам», — казаў раней прэс-сакратар Міністэрства абароны Уладзімір Макараў.

Журналісты будуць сачыць і за наступствамі інцыдэнту ў вайсковай часці №92616 з прызыўнікамі з Веткі.

*Алёна Германовіч*

# Памежнікі затрымалі беларуса, які ішоў па пенсію проста па лёдзе Дняпра

***У раёне населенага пункта Лоеў (Гомельская вобласць) недалёка ад ракі Дняпро памежны атрад берагавой аховы затрымаў мясцовага жыхара, які парушыў мяжу. Пазней мужчына растлумачыў, што вырашыў адправіцца такім рызыкоўным шляхам па пенсію, паведамляе прэс-служба Дзяржпагранкамітэта.***

Аказалася, што некалькі гадоў таму беларус пераехаў ва Украіну, а на радзіме да гэтага часу не бываў. Але з-за праблем з фінансамі вырашыў прыехаць сюды па пенсію.

Пры гэтым маршрут грамадзянін выбраў незаконны, і да таго ж рызыкоўны — па лёдзе ракі Дняпро. На шчасце, бяды ў такую адлігу ля вады не здарылася. Але вось да адміністрацыйнай адказнасці парушальніка мяжы прыцягнулі.

*news.tut.by*

ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# Футбол па-беларуску!

***Каардынатар грамадзянскай кампаніі “Справааводства па-беларуску” Ігар Случак ужо пачаў новы футбольны сезон. Гэтымі днямі ён разаслаў усім футбольным клубам вышэйшай лігі лісты з прапановай шырэй выкарыстоўваць беларускую мову ў спартовай дзейнасці:***

– Зноў даслаў, як і ў папярэднія гады, звароты ў футбольныя клубы вышэйшай лігі з прапановай больш выкарыстоўваць беларускую мову. Гэта значыць: пісаць па-беларуску прозвішчы гульцоў на форме, каб дыктар працаваў беларускамоўны, каб табло было беларускамоўнае, праграмкі, афішы і г.д., каб усё жыццё клуба было больш беларускамоўным.

Насамрэч да пачатку футбольнага сезону ў Беларусі ёсць яшчэ паўтара месяца. Але Ігар Случак кажа, што ён адмыслова сёлета раней даслаў свае лісты, каб у адміністрацый клубаў быў час на прыняцце канкрэтных рашэнняў у справе беларусізацыі іх дзейнасці.

*Васіль Кроква*

# Футбольны "Нёман" павіншаваў з Днём роднай мовы і запусціў беларускамоўную версію сайта

***Гарадзенскія футбалісты загаварылі па-беларуску, у сайта з'явілася беларускамоўная версія, але, як аказалася, гэта яшчэ не ўсе сюрпрызы, якія рыхтуе "Нёман" у Дзень роднай мовы.***

У жніўні 2015 года гарадзенскі клуб паабяцаў грамадскаму актывісту Ігару Случаку, што "Нёман" выкарыстае ўсе магчымасці, каб развіваць родную мову ў гарадзенскім футболе.

Доўга чакаць не прыйшлося: "Нёман" стрымаў сваё абяцанне і не толькі запусціў беларускамоўную версію сайта, але і прымусіў футбалістаў загаварыць на роднай мове.




Адзін з футбалістаў, што прынялі ўдзел у здымках, - Павел Забелін. "Мне прапанавалі паўдзельнічаць у здымках ролiку і я пагадзіўся. Мне спадабалася, думаю, заўзятары ацэняць. Сам я стаўлюся да беларускай мовы, як да роднай. Калі б усе перайшлі на яе, я б гэта ўспрыняў з вялікай радасцю. А так, пакуль асабіста мне цяжка пераключыцца".

Новай версіі сайта і відэаролiку ўзрадаваўся і Ігар Случак. Ён адзначыў, што гарадзенскі "Нёман" за кошт гэтага стаў адным з самых беларускамоўных спартыўных клубаў Беларусі.

"Калі сёння прагортваў стужку ў сацыяльных сетках, быў прыемна ўражаны беларускамоўным віншаваннем гульцоў "Нёмана" з Днём роднай мовы. Якое ж было маё здзіўленне, калі, зайшоўшы на сайт, я ўбачыў, што з'явілася і беларускамоўная версія сайта! Гэта сапраўдны падарунак усім футбольным прыхільнікам не толькі "Нёмана", але і ўсёй Беларусі".

Ігару тым больш прыемна, што клуб паабяцаў яму стварыць беларускамоўную версію сайта і сваё слова стрымаў.

"Гэта вельмі годная рыса не толькі ў футболе, але і ў жыцці, - кажа Ігар. - Яшчэ пару год таму ў Нёмане беларуская мова амаль не выкарыстоўвалася, а зараз клуб з Гродна - адзін з самых беларускамоўных у Беларусі. І беларускай мовы з кожным месяцам у ім становіцца ўсё болей".

Зараз у каманд Вышэйшай Лігі чэмпіянату Беларусі ёсць толькі тры сайты з беларускамоўнай версіяй: "Дынама-Мінск", "Нёман" і, з вялікай нацяжкай, мазырская "Славія".

У "Нёмане" распавялі, што гэта яшчэ не ўсе падарункі, якія яны падрыхтавалі да Дня роднай мовы, і прапанавалі ўсім сачыць за навінамі.

*Руслан Кулевіч*

# Каханне на ўсё жыццё. ТОП-5 він ад якіх не стогне гаманец. "МОЯ ЛЮБИМАЯ ЖЕНЩИНА"




Гэтая танная «нямецкая» жанчына абыдзецца Вам у ~ 42 бульбы-фры за 0.75 і ~ 45 за 1 літр, і зачаруе сваім пяшчотным смакам і прыемным сапфіравым колерам бутэлькі (калі вы ўзялі белае). Апошнюю, дарэчы, эканомныя хатнія гаспадыні з творчай жылкай любяць ператвараць у вельмі дзіўныя вазы і іншыя прадметы інтэр'еру.

У цэлым, гэта віно можа паслужыць добрым сродкам для расслаблення і ўзняцця настрою.

Працяг ў суседнім Гумне...

*Rachok Genious*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Люты-2 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на паперовай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA